Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№ 49 (870) 8 снежня 2016 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
# Вольнае Глыбокае



# Вячаслаў Ракіцкі здымае ў Глыбокім 39-ю серыю "Сведкаў"




**Вячаслаў Ракіцкі** (злева на фота), папулярны журналіст і вядоўца перадач на Радыё Свабода, беларускі пісьменнік, перакладчык, мастацтвазнаўца, тэатральны і кінакрытык, сцэнарыст і рэжысёр дакументальнага кіно, здымае для БелСАТа дакументальны цыкл «Сведкі», які прысвечаны найноўшай гісторыі Беларусі.

Нагадаем нашым чытачам, Вячаслаў Ракіцкі паходзіць з Празарок, у студэнцкія гады праходзіў практыку ў глыбоцкай раёнцы «Шлях Перамогі». Ён напісаў шэраг кніг, сярод якіх: *«Беларуская Атлянтыда: Рэаліі і міфы еўрапейскай нацыі»*, што выйшла ў серыі «Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя» ў 2006 годзе. У 2010 годзе пабачыла свет *«Беларуская Атлянтыда. Кніга другая: Міфы і брэнды каляніզаванай нацыі»*. У 2011 годзе выйшла кніга *«„Сто адрасоў свабоды". 1980-2010»*, якая з'яўляецца першай спробай сістэматызацыі беларускай гісторыі і геаграфіі, незалежнасці і дэмакратыі. *Тэкст і фота Ул. Скрабатуна.*

Працяг на стар. 4.



ISSN 2077-8023





# Косінец вызвалены ад пасады кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі

Аляксандр Косінец вызвалены ад пасады кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сувязі з пераходам на іншую працу. Адпаведны ўказ краўніка дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў 5 снежня, паведамілі БелТА ў прэс-службе беларускага лідара. Аляксандр Лукашэнка таксама вызваліў Канстанціна Мартынецкага ад пасады першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сувязі з пераходам на іншую працу. Выканаўцам абавязкаў кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта прызначаны Валерый Міцкевіч.

*БелТА.*

### По краіне

# За камфорт трэба плаціць

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Як і чакалася, пасля пераходу суседніх з Беларуссю краін на “зімовы час” пэўныя змены закранулі пасажыраў міждзяржаўных маршрутаў.**

Новы графік руху паяздоў увяла з 11 снежня Беларуская чыгунка і ўнесла карэктывы ў расклад руху цягнікоў, бо за межамі краіны курсіруе зараз 56 пар паяздоў. Найбольш папулярнымі і запатрабаванымі па-ранейшаму застаюцца ўнутрырэспубліканскія перавозкі, дзе працягваецца абнаўленне рухомага складу. Не толькі паміж Мінскам і перыферыяй, але і паміж буйнымі гарадамі паездкі становяцца больш хуткімі і камфортнымі. Да нядаўняга часу толькі па выхадных можна было даехаць з Віцебска да Магілёва дызель-поездам эконам-класа. Аднак пасля завяршэння прыёмных выпрабаванняў па гэтым накірунку пачне хадзіць новы сучасны цягнік, які, праўда, перавялі ў бізнес-клас у ліку яшчэ чатырох па БЧ. Для зручнасці пасажыраў гэты маршрут зрабілі штодзённым і прадоўжылі яго яшчэ да Полацка. Дабрацца адсюль на папулярным маршруце да абласнога цэнтра стала яшчэ прасцей, асабліва ў перыяды павышанага попыту перад святамі і працяглымі выхаднымі, у дні перад пачаткам навучальнага года і студэнцкіх канікул. Такое рашэнне прынята для задавальнення попыту пасажыраў на накірунку Полацк-Віцебск і далей. У цэлым па краіне на пастаяннай аснове ў самых танных для пасажыраў рэгіянальных ліній прадугледжана курсіраванне нават 340 пар паяздоў. Гэты від перавозак – найбольш запатрабавальны і папулярны сярод жыхароў рэгіёна.

### Пастаўскі раён

# Улоў на славу

■ **Кастусь Александровіч**

**У любой справе поспех калектыву прыносіць, як правіла, зладжаная каманда аднадумцаў-прафесіяналаў.**

Такіх адданых сваёй справе спецыялістаў нямала працуе ў рыбгасе “Навінкі”, што ў Пастаўскім раёне, які і сёлета ўвайшоў у тройку лепшых у галіне ў Беларусі. Адметна, што гэты рыбгас па плошчы нагульных прудоў знаходзіцца толькі на 10-м месцы сярод айчынных рыбгасаў. Яшчэ да наступлення зімовых халадоў яго работнікі закончылі сезон пуціны на блакітнай ніве. Фактычна было вылаўлена звыш 1030 тон рыбы, не толькі карпу, але і сама, шчупака, белага амура, ліня і таўсталобіка. Вынікі проста выдатныя, бо адна з сямі нагульнгых сажалак сёлета адпачывала. На ёй плошчай больш 100 гектараў вясной пасеялі пшаніцу і намалацілі больш 120 тон збожжа. Па плане разлічвалі вылавіць 985 тон рыбы, але зададзенае перавыканалі. Акрамя гэтага трэцяя частка мясцовай рыбы вагой ад 1,5 кілаграма і болей, што толькі радуе пакупнікоў і значна палепшыць фінансавае становішча спецыялізаванай гаспадаркі. Аднак на працягу двух з паловай месяцаў у “Навінках” працавалі брыгады рыбаводаў практычна без выхадных і святочных дзён, штодзень дастаўлялі на сартавальную базу прадпрыемства ад 30 да 40 тон рыбы. Ужо некалькі гадоў узведзены тут сучасны інкубацыйны цэх дазваляе весці поўнасцю вытворчы цыкл, а лішкі маладняку прадаваць іншым рыбгасам краіны, арэндатарам водных угоддзяў. Попыт на мясцовую рыбу вялікі і чвэрць вырашчанага ўраджаю ўжо прададзена самывывазам у іншыя вобласці краіны.

### Полацкі раён

# Помста цераз край

■ **Чэслаў Якубовіч.**

**У нашы дні часта ўзаемаадносіны паміж людзьмі набываюць характар вельмі жорсткі.**

Сапраўдная трагедыя разыгралася днямі познім выхадным вечарам у прыгараднай вёсцы Блізніца Полацкага раёна. Там у адной з кватэр двухпавярховага дома па існуючай традыцыі сабралася ў 61-гадовай гаспадыні кампанія для выпіўкі з яе сынам, сужыцелем, да якой далучылася і суседка-аднавяскоўка. Гэта не спадабалася мужу апошняй, які ж да таго ж недалюбліваў сваю зямлячку. Калі ўжо добра сцямнела, каля 10 гадзін вечара ён прыйшоў сюды, каб адвесці сваю, добра падпітую суджаную, дадому. Аднак яна пакідаць знаёмых не хацела і на гэтай падставе ў пакоі ўспыхнула сур’ёзная спрэчка. Няпрошаны госць, 55-гадовы работнік мясцовай гаспадаркі адзін вярнуўся назад, праўда, праз некаторы час на добрым падпітку вярнулася ў свой дом і яговая жонка. Гэты факт, а таксама крыўдныя словы абразы, пачутыя напярэдадні, толькі яшчэ больш разлавалі вяскоўца. Пакрыўджаны муж зноў вярнуўся да дому выпівох, abліў іх дзверы на першым паверсе гаручай вадкасцю і падпаліў, каб “правучыць”. Аднак справіцца самастойна з узнікшым пажарам моцна захмялеўшыя людзі не здолелі. Ужо пасля тушэння полымя пажарныя знайшлі ў пакоі труп загінуўшай пенсіянеркі. Крыху больш пашчасціла яе маладзейшаму на 20 гадоў сыну і 57-гадоваму сужыцелю, якіх з моцнымі апёкамі цела і атраўленнем прадуктамі гарэння даставілі ў рэанімацыю гарбальніцы. З суседніх кватэр прыйшлося эвакуіраваць іх жыхароў. А вось супраць падпальшчыка ўзбуджана крымінальная справа, прызначана шэраг экспертыз, самога яго затрымалі і пазней будуць судзіць за забойства з дапамогай агню.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 08.12.16 | | | | Пятніца 09.12.16 | | | | Субота 10.12.16 | | | | Нядзеля 12.12.16 | | | | Пан. 13.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -1 | +2 | +3 | +2 | +3 | +3 | +3 | +1 | +2 | +2 | -1 | -2 | -3 | -1 | 0 | -5 | -8 | -10 |
| Ціск | 748 | 740 | 737 | 737 | 738 | 737 | 737 | 737 | 739 | 739 | 739 | 736 | 736 | 737 | 735 | 733 | 733 | 737 | 744 |
| Вецер м/сек | 9 | 8 | 5 | 7 | 5 | 4 | 4 | 6 | 6 | 4 | 3 | 2 | 5 | 5 | 6 | 3 | 8 | 9 | 9 |
| | Пд-З | Пд-З | З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пн-З | З | Пд-З | Пд-З | Пд | У | У | Пд-У | З | У | Пн-У | Пн-У |
| Вільготнасць | 84 | 97 | 95 | 97 | 96 | 96 | 94 | 93 | 92 | 93 | 91 | 94 | 94 | 93 | 95 | 95 | 97 | 92 | 82 |

## Аб самым надзённым

# ВА ЎРАДЗЕ БЕЛАРУСІ ПАЧАЛІ РЫХТАВАЦЦА ДА РОСТУ БЕСПРАЦОЎЯ, МОГУЦЬ БЫЦЬ ПАВЫШАНЫ ТАКІЯ ДАПАМОГІ ДЛЯ ДЗВЮХ КАТЭГОРЫЙ ЗВОЛЬНЕНЫХ




■ **Аляксандр Цішкевіч.**

**Як ні горка, але менавіта Беларусь выйшла ў лідары на прасторах СНД па тэмпах росту беспрацоўя, бо за апошні год колькасць афіцыйна зарэгістраваных на біржах працы таких людзей вырасла на 37,1 %. Гэтыя праблемы найпершхвалююць беларусаў разам з няспынным ростам цэн і падзеннем рэальных даходаў.**

Сярэдзіна лістапада запомнілася многім сёлета не толькі рэкорднымі снегападамі, асабліва ў нас на Віцебшчыне даўно так рана не пачыналася сапраўдная зіма. Практычна ўсё чалавецтва здзівілі нечаканыя вынікі выбараў у самай магутнай дзяржаве свету, якую ўзначаліў аўтсайдар гэтай гонкі непрадказальны мільярдэр Дональд Трамп. Для беларусаў таксама будзе добра, калі яму ўдасца знізіць небяспечны ўзровень узаемаадносін на грані нават узнікнення вайны з Расіяй. Аднак, у чым сходзяцца большасць спецыялістаў, далейшае паляпшэнне беларуска-амерыканскіх адносін будзе залежыць найперш ад дзеянняў афіцыйнага Мінска. Амерыканцам яўна не да нашых праблем, але іх пазіцыя можа прадвызначыць рашэнне МВФ па выдзяленні Беларусі патрэбнага крэдыту 3 млрд. долараў.

А вось 15 лістапада ў нашай краіне быў апошнім днём, калі фізічныя асобы павінны былі заплаціць зямельны падатак, а таксама разлічыцца з дзяржавай за карыстанне жылымі дамамі, дзвюма і болей кватэрамі, гаражамі і іншымі збудаваннямі. У гэтым годзе кліентаў у падатковых інспекцый адчувальна прыбавілася, бо да гэтага тэрміна многім суайчыннікам патрэбна было заплаціць яшчэ і праславуты “налог на тунеядство”. Гэты падатак у нас уводзілі з мэтай аднавіць бы так мовіць “сацыяльную справядлівасць” у адносінах тых, хто працяглы час не працуе. Гаварылася аб нібыта 400 тысячах такіх грамадзян, аднак у рэальнасці падатковыя інспектары накіравалі толькі 50 тысяч пісем-паведамленняў з пагрозамі прыцягнуць да адказнасці за нявыплату.

Сама гэтая мера толькі шкодзіць іміджу краіны, верагодна, належным чынам і не спрацуе. Фактычна дзяржава ўвяла штраф людзям за тое, што яны па розных прычынах не працуюць, разлічвала сабраць, па падліках эканамістаў, прыкладна каля 84 млн. долараў, а рэальна збярэ ў 10 разоў меней. Справа ў тым, што зараз у Беларусі працягваецца сапраўдны эканамічны крызіс, шмат дзе на прадпрыемствах і ў арганізацыях сітуацыя няпростая з-за звальненняў, скарачэнняў і “аптымізацыі” персаналу. Дайшло да таго, што працэдура банкрутцтва чакае больш сотні айчынных сельгаспрадпрыемстваў, расце і скрытае беспрацоўе.

Аб гэтым шмат і дэталёва гаварылася на нядаўнім Кастрычніцкім эканамічным форуме, які адбыўся ў Мінску. На ім адзін з начальнікаў упраўлення па занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Токун пацвердзіў, што за апошнія 5 гадоў колькасць занятых на вытворчасці зменшылася на 200 тысяч чалавек. Па іншых словах, ужо летась тэмпы росту беспрацоўя падвоіліся і не зніжаюцца, а празмерная колькасць работнікаў на айчынных прадпрыемствах ацэньваецца ў 5,4 %. Гэты спецыяліст рэальна ведае становішча спраў і не хаваў, што такія людзі ў любы момант могуць застацца без працы і стаць беспрацоўнымі.

Як ні горка, але менавіта Беларусь выйшла ў лідары на прасторах СНД па тэмпах росту беспрацоўя, бо за апошні год колькасць афіцыйна зарэгістраваных на біржах працы такіх людзей вырасла на 37,1 %. Гэтыя праблемы найперш, па дадзеных вучоных-сацыёлагаў, хвалююць беларусаў разам з няспынным ростам цэн і падзеннем рэальных даходаў. Акрамя таго беларусы цяпер нават на постсавецкай прасторы – яўныя аўтсайдары па памерах дапамогі людзям, застаўшымся без працы. У нас яны атрымоўваюць каля 260 рублёў, альбо па 13 долараў, у той час як у Азербайджане плоцяць беспрацоўным дапамогі па 162 USD штомесяц , а ў такіх жа бедных як мы Малдове і Украіне, адпаведна па 69 і 59 долараў.

Між тым, спецыялісты Міжнароднай арганізацыі працы яшчэ ў даволі больш спрыяльным 2014 годзе ацэньвалі рэальны ўзровень беспрацоўя ў Беларусі ў памеры 5,9 %. З таго часу сітуацыя яшчэ больш пагоршылася, але на шчасце ў нас пачалі біць трывогу нават афіцыйныя прафсаюзы, якіх пачулі ва ўрадзе. Як вядома, з наступнага 2017 года ў нас плануецца разглядзець механізм увядзення неўзабаве абавязковага страхавання ад беспрацоўя, а таксама павелічэння памеру такой матэрыяльнай дапамогі для дзвюх катэгорый звольненых грамадзян. У выпадку ліквідацыі прадпрыемства, альбо скарачэння штату такая дапамога будзе павялічана да бюджэту пражытковага мінімуму.

Такая сума зараз складае ў эквіваленце каля 80 долараў, гэта няшмат, але дазваляе людзям набыць мінімальны для захавання здароўя набор прадуктаў харчавання. Дарэчы, ва ўрадзе ўжо не хаваюць, што сёлета да канца года беспрацоўе ў Беларусі можа вырасці да 2 %. Такой жа ацэнкі прытрымліваюцца і эксперты МВФ. У далейшым будзе людзям яшчэ цяжэй знайсці працу, асабліва ў глыбінцы. Па краіне больш паловы такіх прапаноў з зарплатамі меней 300 новых рублёў. У такой сітуацыі нават людзям сярэдняга пакалення прыйдзецца недзе перавучвацца і нават пераязджаць на новае месца жыхарства, дзе лепшыя ўмовы для працаўладкавання. Падтрымліваць на плыву стратных калектывы ў дзяржавы ўжо няма магчымасцей, а многім беларусам прыйдзецца жыць з тым, што рызыка страціць у любы момант працу расце з кожным днём.

## Дзень за днём

**Інфляцыя ў Беларусі стала мінімальнай за апошнія 7 гадоў, аднак падаражэла прамысловая прадукцыя. Беларусь і Украіна дамовіліся зняць гандлёвыя бар'еры. А. Лукашэнка запрасіў бізнесменаў з Турцыі ва ўдзел у прыватызацыі ў Беларусі. У бліжэйшы час рух "Белая Русь" партыяй не стане, а "Гавары праўду" створыць сваю партыю. Насельніцтва прадала банкам з пачатку года 2 мільярда долараў. За знаходжанне ў пагранічнай зоне беларусам плаціць больш не трэба. Мінчанам пачалі выпісваць электронныя рэцэпты. Урад дазволіў беларусам святкаваць на Новы год і ў панядзелак 2 студзеня.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Старшыня ЕС Жан-Клод Юнкер рэзка заявіў, што выбранне Трампа прэзідэнтам ставіць пад пагрозу структуру ранейшых узаемаадносін паміж ЗША і Еўрасаюзам.

**Англія.** Пасля перамогі Д. Трампа на выбарах, як заявіла газета "Financial Times", самая вялікая няўдача напаткала Украіну, ён можа пайсці на перагляд сфер уплыву з Пуціным.

**ЗША.** Рэдактар часопіса "New Vorker" Д. Рэмнік заявіў, што перамога Трампа – гэта трагедыя для краіны і яе Канстытуцыі, трыумф сіл шавінізму, аўтарытарызму і расізму.

**Германія.** Заявы Д. Трампа па пытаннях міжнароднага гандлю выклікалі ў краіне сур'ёзную занепакоенасць, бо можа пацярпець больш мільёна рабочых месц.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч пацвердзіў, што і ў 2017 годзе не зменіцца формула фарміравання цаны на газ для Беларусі, з якой не пагаджаўся беларускі бок.

**Балгарыя.** Былы камандуючы ВПС 53-гадовы Румен Радзеў перамог на прэзідэнцкіх выбарах, урад краіны пайшоў у адстаўку, прарасійскі дзеяч І. Дадон перамог у Малдове.

**М'янма.** У кар'ер па здабычы нефрыту на поўначы краіны ўпаў з неба металічны аб'ект, мяркуюць, што гэта было звязана з запускам эксперыментальнага спадарожніка Кітая.

**Фінляндыя.** На ўстаноўчай канферэнцыі ў Хельсінкі зацвердзілі статут, маніфест і праграму дзейнасці грамадскага апазіцыйнага руху М. Хадаркоўскага "Адкрытая Расія".

**Расія.** Вядомы палітолаг Л. Шаўцова папярэдзіла, што яшчэ адна перазагрузка адносін паміж ЗША і РФ наўрад ці магчымая, бо большасць там падзярона адносяцца да Крамля.

**Карэя.** На вуліцы сталіцы краіны Сеула зноў выйшлі дзясяткі тысяч пратэстуючых з патрабаваннем адстаўкі прэзідэнта Пак Кын Хэ за ўмяшанне ў дзяржаўныя справы яе сяброўкі.

**Галандыя.** З-за зніжэння злачыннасці і скарачэння за 10 апошніх год зняволеных на 43 % у краіне закрылі ўжо 18 турмаў, яшчэ некалькі будуць закрыты ў 2017 годзе.

**Расія.** Дзяржкампанія "Раснафта" паведаміла пра моцнае змяншэнне чыстага прыбытку па выніках 3-х кварталаў года на 57,3 % з-за зніжэння сусветных цэн на нафтапрадукты.

**Латвія.** Начальнік Дзяржаўнай пагранічнай аховы Н. Гарбарс паведаміў, што краіна пабудуе і на мяжы з Беларуссю спецыяльны плот вышынёй 2,7 метры ад нелегалаў.

**ЗША.** Вучоныя аднаго з вядучых ВНУ свету Стэнфардскага ўніверсітэта выявілі, што мозг падлеткаў інакш рэагуе на траўмы, па-рознаму трэба лячыць юнакоў і дзяўчат.

**Новая Зеландыя.** Ля берагоў краіны адбыўся магутны землятрус сілай 7,4 балы, зноў пацярпеў асабліва горад Крайстэрч, дзе ў 2011 годзе загінула 185 чалавек.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Тым, хто хоча атрымаць субсідыю на аплату «камуналкі», даведку аб маёмасці дадуць бясплатна



■ FINANCE.TUT.BY

**Даведку для атрымання жыллёвай субсідыі па заяўным прынцыпе хочуць зрабіць бясплатнай. Пра гэта паведаміў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін сёння на сумесным пасяджэнні палат Нацыянальнага сходу.**

«Прэм'ер-міністр прыняў рашэнне зраўнаваць выяўляльны і заяўны прынцып без аплаты за гэты дакумент», - адзначыў віцэ-прэм'ер. Ён растлумачыў, што рыхтуецца дакумент, які вызваліць грамадзян ад выплаты за даведку аб маёмасных правах, якая павінна падавацца па заяўным прынцыпе. Гэтая папера каштуе каля 2 рублёў.

Нагадаем, што пакуль толькі 315 сем'яў падалі заяўку на прадастаўленне субсідыі на аплату ЖКП па заяўным прынцыпе, гэта значыць самі. Ужо ёсць 154 рашэнні, з якіх толькі 63 станоўчых.

Яшчэ каля 2 тысяч хатніх гаспадарак выяўлены для атрымання безнаяўных жыллёвых субсідый. Але цяпер урад разглядае магчымасць зніжэння парога для атрымання дзярждапамогі, каб падтрымаць большую колькасць беларусаў. Гэты парог можа стаць дыферэнцыраваным. Напрыклад, тыя, у каго заробак у 300 рублёў, будзе мець парог у 5% ад даходу замест 20%, а той, у каго 400 рублёў, - 10%.

Усяго патэнцыяльнымі атрымальнікамі субсідый па выяўляльным прынцыпе з'яўляюцца 420 тысяч сем'яў. Пры гэтым у Беларусі зарэгістравана 3 мільёны 542 тысячы 94 асабовых рахункаў. Выходзіць, што атрымальнікамі субсідый могуць стаць 12% хатніх гаспадарак.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пры існуючай структуры эканомікі, як папярэдзіў дырэктар НДІ Мінэканомікі А. Чарвякоў, Беларусь вернецца на свой дакрызісны ўзровень развіцця толькі праз 50 гадоў.

**Шклоў.** А. Лукашэнка адкрыў у райцэнтры новую Лядовую арэну і заявіў на нарадзе, што развіццё вёскі ў Беларусі трэба комплексна ўзняць на новы ўзровень.

**Астравец.** З удзелам інвестараў з Турцыі ў горадзе пабудавалі сучасны 3-зоркавы гатэль з 6 паверхаў коштам 12 млн. долараў, пры ім стварылі каля 40 новых рабочых месцаў.

**Мінск.** Глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Аляксандр Косінец пацвердзіў, што з 1 студзеня пачнецца скарачэнне дзяржапарату, але нікога з дзяржслужачых не пакрыўдзяць.

**Дразды.** Зямельны ўчастак плошчай 15 сотак для ўзвядзення шыкоўнага асабняка ў элітным катэджным пасёлку ля сталіцы атрымала віцэ-прэм'ер Н. Качанава.

**Магілёў.** Абласны Эканамічны суд вырашыў пачаць санацыю неплацежаздольнай і стратнай швейнай фірмы "Веснянка" з даўгамі 695 мільярдаў рублёў на працягу 18 месяцаў.

**Брэст.** Пасля падпісання міравога пагаднення з асноўным крэдыторам у горадзе аднавіла сваю дзейнасць закрытая шакаладная фабрыка пад вядомым брэндам "Ідэал".

**Мінск.** Перспектывы эканамічнага рыўка ў адносінах з Турцыяй, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, сумніўныя, бо наша эканоміка саўковая, а турэцкая – пераважна рынкавая.

**Мінск.** З пачатку года беларускі экспарт у Турцыю ўпаў амаль у 2 разы і склаў толькі 53,1 млн. USD, турэцкі імпарт наадварот вырас да 438,6 млн, нашы тавары туркам нецікавы.

**Мазыр.** Віцэ-прэм'ер урада Украіны Генадзь Зубко заявіў, што краіна можа пачаць пастаўкі нафты на мясцовы НПЗ для перапрацоўкі на давальніцкіх умовах.

**Мінск.** Наша дзяржава, як заявіў заснавальнік партала TUT.by Ю. Зіссер, канчаткова захрасла ў мінулым стагоддзі, адгарадзілася помнікамі Леніна ад рэаліў дынамічнага свету.

**Бялынічы.** Былога начальніка мясцовай ДАІ, ураджэнца Магілёва суд пакараў 4 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за падман банкаў і знаёмых на 0,5 млрд. старых рублёў.

**Магілёў.** Міліцыя затрымала дзвюх жанчын і мужчыну, якія з-за рэўнасці выкралі і вывезлі ў лес маладую гараджанку, распранулі яе амаль дагала і абстрыглі дзяўчыне валасы.

**Баранавічы.** Амаль 30 чалавек, з іх 5 дзяцей, шпіталізавалі ў гарбальніцу пасля ўспышкі трыхінелёзу ў пяці вёсках раёна ад ужывання каўбасы з мяса забітага дзікага кабана.

**Светлагорск.** Суд пакараў былую 28-гадовую выхавацельку дзетсада-яслі № 5 1 годам папраўчых работ, з-за яе недагляду 4-гадовы малыш зламаў абедзве рукі.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі ўвядуць адказнасць за «ліпавыя» зніжкі ў гандлі

■ belnovosti

**У Беларусі плануецца забараніць нядобрасумленную канкурэнцыю спосабам ўвядзення ў зман.**

Ірына Наркевіч, намеснік міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю, заявіла, што ў новы заканапраект уключана норма, якая ўводзіць забарону на нядобрасумленную канкурэнцыю шляхам увядзення ў зман. Яна прывяла прыклады, калі гандлёвыя аб'екты ў сезон распродажаў уводзяць грамадзян у зман. Выяўлены выпадкі, калі прадавец перад надыходам гэтага сезону завышае цану на тавар штучна, каб потым зрабіць на яго зніжку.

Забарона на падобную канкурэнцыю будзе ўведзена і ў дачыненні да колькасці тавару, яго якасці і спажывецкіх уласцівасцяў. Намеснік міністра падагульніла, што скідкі павінны быць добрасумленнымі і сумленнымі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** Абласны Эканамічны суд прыпыніў справу аб ліквідацыі мясцовага райаграснаба і прызначыў дадатковую экспертызу стану яго фінансавай дзейнасці.

**Глыбокае.** У адрозненне ад суседзяў, ніводная гаспадарка раёна не патрапіла пад банкрутцтва, але 9 сельгасарганізацый краю чакае працэдура дасудовага аздараўлення.

**Орша.** На мясцовым авіярамонтным заводзе правялі дзень адкрытых дзвярэй з наведваннем ангараў для рамонту самалётаў і ўсіх тыпаў верталётаў, аэрадрома.

**Віцебск.** Начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Д. Хома забараніў школам вобласці адзначаць сумніўныя заходнія святы Хэллоўіна і дзень святога Валянціна.

**Дуброўна.** Работнікі мясцовага льнозавода ўпершыню нарыхтавалі 7564 тоны трасты сярэднім нумарам 1,21, усяго ўдалося набыць 10 тысяч тон сыравіны для перапрацоўкі.

**Полацк.** Пасля вяртання да прэзідэнта і абследвання жылля главой вобласці 4-м сем'ям з паўразбуранага пасляваеннага будынка выдзелілі кватэры ў іншых дамах горада.

**Верхнядзвінск.** Вечарам на чыгуначнай станцыі Боркавічы грузавы поезд збіў насмерць п'яную мясцовую жыхарку, у раёне – сёлета гэта 2-гі смяротэльны выпадак на чыгунцы.

**Гарадок.** Супраць 25-гадовага раней судзімага жыхара раённага цэнтра распачалі крымінальную справу за здзекі над 10-гадовым суседам, бо мярзотніку не падабалася прозвішча малога.

**Паставы.** Па гарачых слядах міліцыя выявіла злодзея, які ўкраў у суседа … кавальскае кавадла, другі беспрацоўны мужчына скраў і адразу прадаў 3 калекцыйныя самавары.

**Шаркоўшчына.** У рамках праграмы супрацоўніцтва ў райбальніцы пабывалі спецыялісты Даўгаўпілскай краявой думы (Латвія), якія цікавіліся практыкай аказання медпаслуг.

**Віцебск.** Пасля кароткага знаходжання ў Беларусі духоўнік "ДНР" П. Шульжонак заявіў, што тут і ў Казахстане, Малдове мала хто Расію любіць, гэта трэба жорстка "лячыць".

**Браслаў.** У ходзе пошукаў міліцыя адшукала ў рацэ Дзісна паблізу з аграгарадком Каз'яны труп прапаўшага 60-гадовага мужчыны, які запіваў і выходзіў з дома ў запой.

**Мёры.** Адразу 8 праваслаўных нядзельных школ вобласці сабраў у мястэчку Язна ў сёмы раз міжраённы епархіяльны духоўны фестываль "Язненскі благавест".

**Ушачы.** У рамках акцыі "Я – грамадзянін Беларусі" вучні, 5, 6 і 9-х класаў мясцовай СШ наведалі мемарыяльны комплекс "Хатынь", у Мінску музей папулярных навук "Квантум".

**Докшыцы.** Міліцыя затрымала 40-гадовага беспрацоўнага мужчыну, які, пагражаючы пнеўматычным пісталетам, забраў у 12-гадовай дзяўчынкі 6 рублёў і 50 капеек.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Докшыцкага раёна"

**Праект ЕС/ПРААН "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь". Ініцыятыва Міжнароднага экалагічнага грамадскага аб'яднання "Прырода і мы".**

**Алег Лысёнак,** МЭГА "Прырода і мы"

Працяг.

*Пачатак № 48 (869) 1 снежня 2016 г.*

Заняткі праводзіць дырэктар Барсукоўскай школы Генадзь Міхайлавіч Шульга.

**Беразкоўскі сельскі выканаўчы камітэт.**

Створаны Беразкоўскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад, якімі ўвесну была праведзена экспертыза ракі Вілія, пад кіраўніцтвам Сініцы Аксаны Міхайлаўны. У выніку экспертызы вады з дадзенай ракі было выяўлена перавышэнне ХСК (хімічнае спажыванне кіслароду) у 2,36 раза.

У цэнтры ***в. Бярозкі*** вычышчаны вадаём ад смецця і расліннасці. Створана экалагічная сцежка ад школы да вытока ***р. Вілія.*** Другая экалагічная сцежка пракладзена ад школы да прытоку ***р. Бярэзіна.***

Так як в. Бярозкі знаходзіцца ва ўнікальным месцы, дзе цячэ р. Вілія, якая нясе свае воды ў ***Балтыйскае мора,*** а з іншага боку вёскі прыток ракі Бярэзіна нясе свае воды ў ***Чорнае мора.*** Усё гэта навяло на думку, што ў Беразкоўскай СШ трэба стварыць музей дзвюх рэк. У наш час рыхтуюцца экспанаты, і музей хутка будзе прымаць наведвальнікаў. Для гэтага распрацавана эмблема музея, зроблены стэнды з апісаннем рэк і ідзе навуковая праца па стварэнні музея.

**Бягомльскі сельскі выканаўчы камітэт**

Створаны Бягомльскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад, які створаны для таго, каб прышчапіць школьнікам любоў і павагу да прыроды. Кіруе школьным экалагічны атрадам дасведчаны педагог Вольга Рыгораўна Прыходзька. Праца школьнага экалагічнага атрада складаецца ў патруляванні экалагічнай сцежкі, якая пачынаецца з тэрыторыі школы і праходзіць уздоўж ***ракі Можанкі,*** межаў луга і лесу.

Праведзена ўладкаванне вадаёма і крыніцы ў г.п. Бягомль.

Праведзеныя працы па ачыстцы забалочанай мясцовасці і стварэнні вадаёма.

**Бярэзінскі сельскі выканаўчы камітэт**

Створаны Бярэзінскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўніком стаў дасведчаны педагог Антон Іванавіч Гірно. Праведзена грамадская экалагічная экспертыза р. Бярэзіна. Перавышэнне іёна амонія зарэгістравана ў 2,537 раза. На рацэ ***Поня*** экалагічная экспертыза не паказала ніякіх парушэнняў.

Створана адкрытая альтанка (летні навучальны клас для правядзення заняткаў школьнікаў).

**Докшыцкі сельскі выканаўчы камітэт**

Створаны Докшыцкі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўнік – Антаніна Іванаўна Стадольнік. Праведзена грамадская экалагічная экспертыза ***р. Бярэзіна.*** Перавышэнне ХСК (хімічнае спажыванне кіслароду) у 1,2 раза.

Па беразе ***ракі Барсучанкі*** праходзіць распрацаваная намі экалагічная сцежка, якая бярэ пачатак ад вадасховішча. Па берагах вадасховішча пасаджана алея маньчжурскага арэха (20 шт.), вырашчаная нашым аб'яднаннем. У канцы алеі на беразе вадасховішча ўсталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў экалагічнага атрада, а таксама адпачынку мясцовага насельніцтва і турыстаў.

**Крыпульскі сельскі выканаўчы камітэт**

Створаны Крыпульскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўнік – Надзея Анатольеўна Пастарнакава. Праведзена грамадская экалагічная экспертыза ***р. Морай.*** Перавышэнне іёна амонія зарэгістравана ў 1,85 раза. Створана экалагічная сцежка ад школы па беразе р. Морай і да яе вытока. У цэнтры аграгарадка Гняздзілава ўсталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі, а таксама для адпачынку насельніцтва. Распрацаваны праект стварэння вакол альтанкі міні-дэндрапарка.

*Працяг будзе.*

У в. Варганы ўсталяваны стэнд з апісаннем Варганскай гары і тры ўказальнікі – «Экалагічная сцежка».

**Базавая велічыня (БВ) з 1 студзеня 2017 года з цяперашняга 21 рубля павялічваецца да 23 рублёў (на 9,5%). Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета міністраў ад 28 лістапада 2016 года № 974, паведаміла прэс-служба ўрада.**

**З 1 студзеня 2016 года (да дэнамінацыі) БВ была павышаная з 180 тыс. да 210 тыс. рублёў.**

# З 1 студзеня базавая велічыня будзе складаць 23 рублі

Базавая велічыня была ўведзеная 1 сакавіка 2002 года, яна прымяняецца для вылічэння цэлага шэрагу паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

Першая базавая велічыня была ўстаноўленая ў 10 тыс. рублёў. Амаль за 14 гадоў, з улікам яе змянення з 1 студзеня 2016 года, базавая велічыня павялічвалася 18 разоў. Пры гэтым, напрыклад, з 1 студзеня 2015 года яна была вызначана ў памеры 180 тыс., з 1 студзеня 2016 года — 210 тыс. рублёў.

*БелаПАН.*

# Вячаслаў Ракіцкі здымае ў Глыбокім 39-ю серыю "Сведкаў"

Вячаслаў Ракіцкі.

Працяг.

*Пачатак на стар. 1*

Здымачная група прыехала ў Глыбокае на вуліцу Горкага, 22, дзе на сцяне дома месціцца мемарыяльная шыльда, прысвечаная палітыку, асветніку, дойліду – Клаўдзію Дуж-Душэўскаму. Душэўскі, акрамя таго лічыцца і аўтарам бел-чырвона-белага сцяга, які быў сімвалам Беларускай Народнай Рэспублікі, і чатыры гады паспеў пабыць і сімвалам незалежнай Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго К. Дуж-Душэўскі быў дзяржаўным сакратаром ва ўрадзе БНР, прэм'ер-міністрам якога быў зямляк Вацлаў Ластоўскі. З восені 1919 Душэўскі – дыпламатычны прадстаўнік урада БНР у дзяржавах Балтыі.

Па сцэнару аўтар гэтых радкоў мусіў распавесці, што ў 2008 годзе, да 90-х угодкаў БНР, мясцовыя грамадскія актывісты вырабілі і прымацавалі да сцяны гэтага дома мемарыяльную шыльду. Шыльда павісела дні са тры, а потым глыбоцкія ўлады "здзёрлі" гэтую шыльду, як няўзгодненую і незаконна ўсталяваную.

Так можа і было б ... па сцэнару! Але!... Сцэнар даваўся перарабляць у рэжыме он-лайн! Здымачная група чакала ўбачыць голую сцяну дома №22, аднак шыльда як вісела, так і вісіць да сёння! Шок! Праўда, шыльда – іншая! Але ж ёсць! Неспадзяванка выйшла!

– Тыя людзі, якія здымалі "няўзгодненую" шыльду ў 2008-м, яны ж і павесілі новую, ужо бронзавую, у 2012-м да Дня беларускага пісьменства і друку!– тлумачу.

Колькі хвілінаў было прысвечана здымкам і Алеі славутых землякоў. Помніку Вацлаву Ластоўскаму. Ва ўрадзе Ластоўскага і быў Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Па словах Вячаслава Ракіцкага, шмат хто ў Мінску, калі дачуўся, што ў Глыбокім будзе ўсталяваны помнік прэм'ер-міністру Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаву Ластоўскаму, – не паверылі сваім вушам, палічылі за чарговы фэйк уладаў. Калі, усё ж, паставілі, таксама не паверылі... Паехалі ў Глыбокае спраўдзіць! І сам спадар Ракіцкі "паляцеў" спраўджваць!

Глыбокае – адзіны горад Беларусі, дзе ўганараваныя помнікамі ўсе выбітныя ўраджэнцы свайго краю!

"Сведкі" – дакументальны цыкл фільмаў Вячаслава Ракіцкага распавядзе пра змаганне за незалежную і дэмакратычную Беларусь у 1980-2000-х, у якасці «сведкаў» – актыўныя ўдзельнікі гэтага змагання. Трыццаць недалёкіх ад нас гадоў гісторыкі ўжо трактуюць як найноўшае адраджэнне. Яно поўніцца як шматлікімі перамогамі, гэтак і не меншымі паразамі, з якіх варта рабіць высновы. Сёння ўжо час фіксаваць гэтую гісторыю, якая ўсё больш і больш аддаляецца ад нас.

*Ул. Скрабатун.*

# "Няўжо людзям няма дома чаго есці!"

– Няўжо людзям няма чаго дома есці!– казалі мінакі на набярэжнай возера Кагальнага, ды круцілі пальцам ля скроняў. Натуральна, гэтыя словы адносіліся не да рыбалова, што на гэтым здымку, які вудзіў на мелкаводдзі, а да тых двух "смельчакоў", якія адважыліся вудзіць рыбу пасярод возера, дзе глыбіні сягаюць да пяці метраў.

Аўтар запытаў у рыбалова, які вудзіў рыбу ля самага берага: "Якая таўшчыня лёду?"

– 4-5 сантыметраў,– адказаў рыбак.

Да рыбалова прывандраваў мясцовы кот, які сачыў за клёвам ды чакаў ласунка.

У гэты суботні дзень аўтар здымка налічыў на лёдзе возера дванаццаць рыбаловаў. Большасць вудзіла ля самых трыснягоў. Не рызыкавалі аддаляцца.

Нагадаем: бяспечнай таўшчынёй лёду для пераходу лічыцца – 12 см; для аднаго пешахода – 10-12 см; для групы людзей – 15-20 см; для каткоў – 25 см.

*Ул. Скрабатун.*

# Аб справядлівасці

*"Авечка і воўк па-рознаму разумеюць справядлівасць, і ў гэтым усе нявырашаныя праблемы сучаснага свету".*
*Аўраам Лінкольн*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Згодна "Слоўніка рускай мовы" Ожагава справядлівасць – гэта справядлівыя адносіны да каго-небудзь, непрадузятасць, у суадносінах з ісцінай, якая ажыццяўляецца на законных і чэсных асновах.

Сёння часта можна чуць з вуснаў эканамістаў і кіраўнікоў-аграрыяў аб тым, што закупачныя цэны на іх прадукцыю несправядлівыя, нават рабаўнічыя. Напрыклад, закупачная цана на малако за літр "экстры" 49 капеек, за вышэйшы гатунак – 42 капейкі, за першы клас – 37 капеек. У насельніцтва закупляем па 38 капеек. У магазіне самае таннае "пенсіянерскае" 1 рубель 6 капеек. А калі ўзяць "Савушкін прадукт", то больш за паўтара рубля. Навар ад прыбытку атрымоўваюць перапрацоўшчыкі.

З вытворчасцю ялавічыны карціна яшчэ больш змрочная. За 2015 год у гаспадарцы Любінова сабекошт адной тоны ялавічыны склаў каля 2700 рублёў, а рэалізацыя – 1700 рублёў. Прамыя страты гаспадарка панесла на вялікія сумы. Аб якой справядлівасці можа быць размова, калі чалавеку гаспадарка павінна рэалізаваць сваю прадукцыю па заніжаных коштах? Дзе рыначныя, справядлівыя адносіны?

Справядлівасць... Колькі жыццяў пакладзена ў імя твайго ажыццяўлення, колькі коп'яў зломлена лепшымі розумамі чалавецтва, каб абгрунтаваць тваю неабходнасць, колькі рэвалюцый здзейснена ў імя цябе, СПРАВЯДЛІВАСЦЬ! Але цябе як не было, так і няма, і, напэўна, свету людскому, судзячы па яго агрэсіўнасці, яшчэ доўга давядзецца ўсведамляць рэальнасць твайго ажыццяўлення.

У якое стагоддзе ні загляні – суцэльная несправядлівасць. У V стагоддзі да нашай эры старажытнагрэчаскі філосаф Сакрат разумеў, што моладзь выхоўвалася ў духу сафізму, выступіў супраць несправядлівасці, быў прыгавораны да смяротнага пакарання і павінен быў прыняць яд. У сярэднія вякі, калі навука далёка сягнула ўперад і яе вывады ішлі ўразрэз з рэлігійнымі догмамі, вучоныя падвяргаліся страшным ганенням. Іх гнаілі ў турмах, спальвалі на кастрах у імя ўмацавання хрысціянства, за веру Хрыстову, за "праўду"!

Паважаны чытач скажа: "Гэта былі часы цемнаты, ну, памыляліся крыху". Зразумелі, выправіліся. Але можа хто забыўся аб тым, як у 1937 годзе саджалі ў турмы. Здзекаваліся, расстрэльвалі, вывазілі ў Сібір сотні тысяч "ворагаў народа", якіх пасля смерці Сталіна рэабілітавалі. Ну, памыліліся крыху, лес сякуць – шчэпкі ляцяць. Годнасць чалавека, кошт яго жыцця прыраўнялі да шчэпак. А дзе справядлівасць?

У 1949-1950 гадах у Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне, Прыбалтыцы на аснове дабраахвотна-прымусовага прынцыпу сагналі людзей у калгасы, бясплатна адабралі ў іх асабістую гаспадарку: скаціну, пабудовы, сельгасінвентар. Людзей ператварылі ў калгасных прыгонных, прымусіўшы дарма працаваць. Ці захоўвалася хоць якая элементарная справядлівасць?

А што змянілася на нашым вяку? Міжнародная дамова пасля Другой сусветнай вайны аб непарушнасці дзяржаўных межаў і іх тэрыторый парушаецца паўсюдна. Дзяржавы, якія маюць ваенную сілу, на свой погляд узброеным шляхам забіраюць у суседзяў тэрыторыі. Расія забрала ў Грузіі Абхазію і Паўднёвую Асецію, ва Украіны Крым, вядзе ваенныя дзеянні ў Луганскай і Данецкай абласцях Украіны, умешваецца ва ўнутраныя справы Сірыі. Дазваляе сабе ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў і ЗША. А дзе справядлівасць?

Падпісваюць дамовы аб супрацоўніцтве, а потым іх не выконваюць, адчуваючы беспакаранасць другім бокам. Напрыклад, так робіць Расія ў адносінах да Беларусі з пастаўкай малака і малочнай прадукцыі, мяса і мясной прадукцыі ў Расію. Або знаходзяць прычыну недапастаўкі ў Беларусь нафты і газу, наносячы нам значныя фінансавыя страты. А дзе ж справядлівасць?

Здавалася б, чалавецтва разумее памылковасць выбраных узаемаадносін паміж краінамі, нацыянальнасцямі, рэлігіямі і асобнымі сусветнымі, дзяржаўнымі арганізацыямі, асобнымі людзьмі, і ўсе крокі накіраваныя на ўмацаванне міру, стабільнасці і ўзаемаадносін. Але той самай справядлівасці як не было, так і няма.

Давайце яшчэ раз учытаемся ў выказванні нацыянальнага героя амерыканскага народа, вызваленца амерыканскіх рабоў Аўраама Лінкольна. Чаму ў авечак і ваўкоў не можа быць аднолькавага разумення справядлівасці? Па-першае, таму што яны жывёлы, а па-другое, якія могуць быць добрыя, справядлівыя намеры ў драпежніка ў адносінах да сваёй ахвяры?

У гэтым і ёсць разгадка ўсіх нашых нядобрых узаемаадносін з другімі людзьмі. Мы ўсе вядзем сябе як тыя ж ваўкі і авечкі, прадаўжаючы жыць па законах жывёльнага свету "у сильного всегда бессильный виноват". А ці не так пабудаваныя ўзаемаадносіны паміж уладарамі або багатымі і прастым людам? Усё адно да аднаго.

У нашай краіне медыцына і адукацыя быццам бясплатныя. Але для "эліты" будуюцца асобныя бальніцы, якія забяспечаны навейшай апаратурай, укамплектаваныя высокапрафесійным медперсаналам, добротныя выгоды, самыя сучасныя лякарствы. Канечне, усё бясплатна. У звычайных бальніцах таксама ёсць асобныя палаты, але платныя, не па кішэні простаму люду. Жадаеш атрымаць добрыя імпартныя лякарствы – плаці, калі ёсць грошы. Няма грошай, прабач, прымай тое, што прыпісана. Што тычыцца адукацыі, асабліва вышэйшай і сярэднеспецыяльнай, калі не ўдалося паступіць на бюджэтнае забеспячэнне, а ў бацькоў няма вялікіх пасад, простыя працаўнікі, на платнае не пацягнеш, бо патрэбна заплаціць вялікую суму. Вось яна наша справядлівасць.

І чым далей адыходзіць час, тым усё глыбей мы пагружаемся ў багну, дзе "справядлівасць" залежыць ад матэрыяльнага і сацыяльнага становішча чалавека.



Справядлівасць жыцця на планеце Зямля можа перамагчы толькі ў тым выпадку, калі мы з "ваўкоў" і "авечак" ператворымся ў людзей са спачувальнымі сэрцамі. Але само па сабе гэта ніколі не здарыцца. Гэту задачу можа і павінна выканаць ідэалагічная служба дзяржавы. Але сучасныя СМІ, як друкаваныя, так і электронныя, займаюцца прапагандай лозунга: "Узбагачайся і весяліся".

Віктар Яфімаў, прафесар, доктар эканамічных навук, кандыдат тэхнічных навук сцвярджае: "Я хачу, каб вы зразумелі, што СМІ сёння накіраваныя на рэалізацыю інтарэсаў транснацыянальных карпарацый, г.зн., вы ніколі на тэлебачанні не ўбачыце нічога, што садзейнічала б вашаму духоўнаму росту, вашаму чалавечаму станаўленню... Сфарміраваць у вас распусту – вось асноўная задача СМІ, сёння гэтага ніхто не ўтойвае".

Так што яе вялікасць СПРАВЯДЛІВАСЦЬ сямутаму сёння непажаданы ком у горле.




# "Бяспечны Новы год!"

**З 5 па 12 снежня ў рамках акцыі работнікі МНС наведаюць санаторыі, аздараўленчыя цэнтры, прафілакторыі, дамы адпачынку, цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

Тут пройдуць забаўляльна-інфармацыйныя праграмы "Бяспечны Новы год", якія ўключаюць у сябе гутаркі па асновах бяспекі жыццядзейнасці, тэматычныя конкурсы і віктарыны, бяспройгрышныя латарэі, дэманстрацыю навучальных фільмаў і ролікаў, а таксама выступленні творчых калектываў.

З 13 па 20 снежня падобныя мерапрыемствы пройдуць у агульнаадукацыйных установах, а таксама дамах-інтэрнатах, установах пазашкольнай работы, дамах сямейнага тыпу і сем'ях, дзе дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

З 21 па 27 снежня ў месцах продажу піратэхнічных вырабаў Дзед Мароз, Снягурка і іншыя казачныя героі звернуцца да пакупнікоў хлапушак і петард, раздадуць інструкцыі па бяспечным выкарыстанні піратэхнікі і наглядна-выяўленчую прадукцыю. З любімымі героямі з навагодняй казкі можна будзе сфатаграфавацца на памяць. Акрамя гэтага, плануецца наведванне лядовых каткоў, устаноў аховы здароўя, дзе маленькім пацыентам Дзед Мароз і Снягурка ўручаць падарункі і яшчэ раз нагадаюць, як важна быць асцярожным пры абыходжанні з агнём.

Фінальныя мерапрыемствы акцыі пройдуць у месцах масавага знаходжання людзей з 28 па 30 снежня. Работнікі МНС, юныя ратавальнікі і актывісты БРСМ павіншуюць жыхароў раёна з надыходзячымі святамі і папярэдзяць ад атрымання апёкаў і траўмаў рознай ступені цяжкасці пры выкарыстанні піратэхнічных вырабаў. Для прыцягнення найбольшай колькасці удзельнікаў будуць падрыхтаваны тэматычныя віктарыны, конкурсы, латарэі.

МНС віншуе ўсіх жыхароў вобласці з надыходзячымі калядными і навагоднімі святамі і жадае, каб ніякія здарэнні не азмрочылі Вам добрага настрою. Памятайце, што Ваша бяспека ў Вашых руках!

***

*Інспекцыя па пажарным наглядзе і прафілактыцы*




## МНС інфармуе

**на 06.12.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 653;
Гібель людзей – 81, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 19;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Бясплатны сыр толькі ў пастцы



**Снежань – апошні месяц года. Ён прыносіць шмат клопатаў, асабліва з набліжэннем Навагодніх святаў час падумаць аб набыцці навагодняй ёлкі.**

■ **А. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

На тэрыторыі раёна будуць арганізаваны пераднавагоднія ёлачныя базары, на якіх і неабходна набываць ёлкі.

Але, нягледзячы на ўсе намаганні лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі ёлкамі па вельмі даступных цэнах, знаходзяцца грамадзяне, жадаючыя займець навагоднюю прыгажуню за дарма, але, як вядома, "бясплатны сыр толькі ў пастцы". Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі заклікаюць грамадзян не рабіць неабдуманых учынкаў і не парушаць лясное заканадаўства.

Згодна пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53: "Нарыхтоўка навагодніх ёлак ажыццяўляецца:

■ на спецыяльна створаных плантацыях навагодніх ёлак;

■ пры правядзенні высечак догляду ў лясах, з ліку дрэў, што высякаюцца ў адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;

■ у парадку расчысткі трас, прасек, палос адводу, ліній электраперадач, на лесасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных высечак, калі на дадзеных лесасеках маладняк не падлягае захаванню".

Грамадзяне самастойна займацца нарыхтоўкай ёлак не маюць права. За незаконную высечку дрэў згодна з арт. 15.22 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 20 да 200 базавых велічынь, такі сама парушальнік аплачвае нанесеную шкоду.

Пры перавозцы ёлак ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных высечак ёлак супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі лясгасаў і міліцыі штодзённа будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, затрыманыя за парушэнні грамадзяне прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб ваш настрой не быў сапсаваны ў Навагоднія святы, рэкамендуем набываць ёлкі ў месцах іх законных продажаў, якія будуць арганізаваны ў многіх населеных пунктах раёна і па даступных цэнах.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны: 8-02156-5-59-70 "гарачая лінія", мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**




# Правілы бяспекі паблізу абарванага провада паветранай лініі электраперадач



**Адной з найбольш распаўсюджаных аварыйных сітуацый у электрычных сетках з'яўляецца абрыў правадоў паветранай лініі электраперадач.**

■ **А. Сіўко,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Як правіла, вялікую небяспеку ўяўляюць лініі электраперадач тых электрычных сетак, якія працуюць у рэжыме ізаляванай нейтралі, пры якім аднафазнае замыканне на зямлю – гэта значыць падзенне провада на зямлю не прыводзіць да абясточвання лініі.

Такія лініі пасля падзення провада могуць знаходзіцца ў працы некаторы час, пакуль не будзе выяўлена пашкоджанне. Гэта высакавольтныя лініі напружаннем 6, 10, 35 кВ.

У электрычных сетках напружаннем 110 кВ і вышэй любое замыканне на зямлю з'яўляецца аварыйным рэжымам і звычайна адключаецца хуткадзейнымі прыборамі-абаронамі. Гэта значыць пры падзенні провада на зямлю ў дадзеных электрычных сетках лінія за долі секунды абясточваецца. Але, як правіла, не кожны чалавек ведае, як вызначыць клас напружання лініі і як сябе паводзіць у выпадку выяўлення абарванага провада ЛЭП.

**Чым небяспечна падзенне провада на зямлю?**

Пры падзенні провада, які знаходзіцца пад напружаннем, на зямлю або на токаправодную паверхню адбываецца расцяканне токаў замыкання. На адкрытай мясцовасці токі расцякаюцца ў радыусе васьмі метраў ад кропкі судакранання провада з зямлёй. Калі чалавек трапляе ў радыус дзеяння токаў замыкання на зямлю, то ён трапляе пад так званае крокавае напружанне.

Крокавае напружанне – гэта такое напружанне, якое ўзнікае паміж дзвюма кропкамі паверхні, у дадзеным выпадку зямлі, на адлегласці кроку чалавека. То бок, калі чалавек у зоне дзеяння токаў замыкання на зямлю робіць крок, то ён трапляе пад крокавае напружанне.

Для таго, каб не патрапіць пад напружанне кроку паблізу абарванага провада лініі электраперадач, неабходна выконваць некалькі правілаў.

Першае, што варта зрабіць – гэта пакінуць небяспечную зону, гэта значыць неабходна сысці ад абарванага провада на адлегласць больш за 8 м. Перасоўвацца ў зоне дзеяння токаў замыкання на зямлю трэба "гусіным крокам", не адрываючы ногі адну ад адной. Пры гэтым забараняецца дакранацца да якіх-небудзь прадметаў і іншых людзей, якія знаходзяцца ў небяспечнай зоне.

Часам сустракаюцца рэкамендацыі па перамяшчэнні ў зоне расцякання токаў скачкамі на зведзеных двух або адной назе. Сам па сабе такі спосаб перамяшчэння ў зоне расцякання токаў замыкання на зямлю бяспечны, так як пры гэтым ногі чалавека не расстаўленыя, чалавек дакранаецца зямлі адной кропкай. Але пры такім спосабе перамяшчэння можна спатыкнуцца і стаць на дзве нагі на адлегласці кроку або ўпасці на рукі. У гэтым выпадку чалавек трапляе пад дзеянне крокавага напружання, так як датыкаецца з зямлёй у дзвюх аддаленых адна ад адной кропках. Таму перамяшчацца з зоны расцякання токаў замыкання на зямлю найбольш бяспечна "гусіным крокам".

Для работнікаў электраўстановак важна ведаць, што расцяканне токаў замыкання адбываецца і ўнутры памяшканняў. У дадзеным выпадку пры падзенні провада, які знаходзіцца пад напружаннем, токі расцякаюцца на адлегласць да чатырох метраў ад месца сутыкнення провада з паверхняй падлогі ці токаправоднай паверхні.

Свабоднае перасоўванне ў зоне расцякання токаў замыкання, як у памяшканні, так і за яго межамі, магчыма толькі ў выкарыстаннем спецыялізаваных электраахоўных сродкаў – электраізаляцыйных ботаў або электраізаляцыйных галёшаў.

Пры абрыве провада ў месцах, дзе магчыма з'яўленне людзей, да абясточвання пашкоджанай лініі неабходна папярэджваць людзей, што падыходзяць да месца падзення провада.

